№ 2 (26)
Студзень 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Мінск. Плошча Незалежнасьці, вясна 1991-га.

# Няхай жыве страйк?

## Ці паўторацца сёлета ў Беларусі падзеі вясны 1991-га году

Любой зьяве заўсёды можна знайсьці гістарычныя паралелі, параўнаньні, дзякуючы якім яна будзе ўспрымацца па-іншаму, больш рэльефна і кантрасна. Ну, а ўжо зыходзячы з падабенства можна з вялікай доляй верагоднасьці спрагназаваць, якім чынам будуць разьвівацца падзеі далей. Сёньняшняя эканамічная і палітычная сітуацыя ў Беларусі моцна нагадвае тую, што склалася напачатку 1991-га году. Крызіс ахапіў тады ўсе сьферы жыцьця. Інфляцыя "з'ела" усе зьберажэньні людзей, "апусьціла" заробкі да жабрачага ўзроўню, "вымыла" тавары і прадукты з паліцаў крамаў... СССР, гэты гігант на гліняных нагах, развальваўся літаральна на вачах. Драматычныя падзеі ў Вільні, выбары першага расійскага прэзідэнта, ГКЧП, парад суверэнітэтаў і, нарэшце, Віскулі — увабраў у сябе той гістарычны год. Была і яшчэ адная падзея, якая, безумоўна, увайшла ў аналы гісторыі: масавыя вясновыя страйкі ў дагэтуль ціхмянай, "балотнай", вандэйнай Беларусі.

На мінскія вуліцы рабочых вывела тады найперш галеча. Аднак паступова эканамічныя патрабаваньні сталі абрастаць палітычнымі і незалежніцкімі. Рабочыя пачалі разумець, што карэнным чынам не зьмяніўшы ладу жыцьця, пераменаў не даб'ешся, не дачакаешся. Менавіта на хвалі рабочага руху прыйшоў да ўлады, да кіраўніцтва Вярхоўным Саветам Станіслаў Шушкевіч.

Было гэта ўсяго восем гадоў назад, а ўжо добра забылася. За гэты час нашыя блізкія і далёкія суседзі адбудавалі свае незалежныя дзяржавы, наладзілі больш-менш прыстойнае жыцьцё з элементамі той самай стабільнасьці, пра якую так любяць гаварыць у Беларусі, згадваючы СССР. Нашую ж краіну кідае то ў жар, то ў холад. Арыентацыя на "аднаўленьне СССР", папулізм і элементарная эканамічная неадукаванасьць, "рынкавы сацыялізм" з жорсткай цэнтралізацыяй і дыктатам вытворцам давялі Беларусь да глыбокага крызісу, выйсьця з якога пры захаваньні сёньняшніх уладных структураў нябачна...

Гэта было зразумела даўно, але асабліва праявілася леташняй восеньню, пасьля "чорнага 17 жніўня" у Расіі. Ужо тады інфляцыя і мізэрныя заробкі зрабілі жыцьцё простых людзей невыносным. Пад уплывам хваляваньняў рабочых свабодныя і афіцыйныя прафсаюзы пачалі перамовы з урадам з вылучэньнем усё больш

(Заканчэньне на стар.2)

## Хроніка

*14 студзеня* ў 22.00 на кватэру загадчыцы грамадзкай прыёмнай Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Любові Лунёвай прыйшлі супрацоўнікі Савецкага РАУСу, каб уручыць ёй пад росьпіс позву, паводле якой яна павінна 16 студзеня зьявіцца ў Цэнтральны РАУС дзеля складаньня пратаколу за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу 6 сьнежня, прысьвечанаму 50-угодкам абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Справа ў тым, што 6 лютага заканчваецца 2-х месячны тэрмін, на працягу якога, паводле КаАП, грамадзяніна можна прыцягнуць да адміністратыўнай адказнасьці.

*15 студзеня* Брэсцкі гарадзкі выканаўчы камітэт адмовіў актывісту Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Уладзіміру Вялічкіну ў правядзеньні пікетаў, накіраваных супраць грубага парушэньня Канстытуцыі РБ — інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі. Пікеты павінны былі адбыцца 23 і 29 студзеня. У адмове гарвыканкама сказана, што вуліца Савецкая, на якой У.Вялічкін планаваў правесьці пікетаваньне, «у адпаведнасьці з рашэньнем Брэсцкага гарвыканкама №887 ад 15.10.1998 году ўваходзіць у лік месцаў, дзе забаронена правядзеньне сходаў, мітынгаў і пікетаваньня».

*У студзені 1999 г.* кіраўніцтва друкарні ў г.Рэчыца (Гомельская вобласьць), нягледзячы на афіцыйную дамову, адмовілася друкаваць незалежную газету «Гомельская думка». Друкаваць газету забараніў начальнік абласнога ўпраўленьня па друку Рыгор Сьцепаненка, які палічыў, што «Гомельская думка» у сваіх публікацыях абражае прэзідэнцкую «вертыкаль».

(Заканчэньне на стар.6-7)

# А Міністэрства юстыцыі маўчыць...

## У Беларусі працягваецца пераслед прыватных натарыусаў

Працэс эканамічнага пераследу прыватных натарыусаў, згодна з указам прэзідэнта, ідзе ў Беларусі поўным ходам. 14 студзеня ўсяго дзесяць хвілін спатрэбілася мінскаму гарадзкому суду, каб пакінуць у сіле рашэньне першай інстанцыі — Савецкага раённага суда — аб спагнаньні "заднім чыслом" 158 мільёнаў 800 тысячаў рублёў з прыватнага натарыуса Вольгі Лісоўскай. Справа сп. Лісоўскай слухалася з удзелам пракурора гарадзкой пракуратуры Мешчараковай, довады якой былі безагаворачна прынятыя судовай калегіяй.

Справы з гэткім жа вынікам, ініцыяваныя органамі пракуратуры, разглядаюцца сёньня ў розных беларускіх гарадах. У выпадках, калі прыватныя натарыусы спрабуюць аспрэчваць судовыя рашэньні ў больш высокіх інстанцыях, да "лішкаў", што незаконна адбірае дзяржава, дадаюцца яшчэ і судовыя выдаткі пры пераглядзе справы. І немалыя. Напрыклад, у выпадку Вольгі Лісоўскай такі "дадатак" склаў 18 мільёнаў рублёў. Пры гэтым, згодна з судовымі правіламі, сума выдаткаў на перагляд справы наўпрост залежыць ад сумы "спрэчных" грошай (альбо маёмасьці). Зразумела, што гэткім чынам дзяржава перакрывае магчымыя пошукі праўды натарыусамі праз звароты з касацыйнымі скаргамі ў вышэйшыя інстанцыі. Ды і пошукі гэтыя аказваюцца дарэмнымі... Нагадаем, што так званыя "запазычанасьці" перад дзяржбюджэтам пасьля ўказу прэзідэнта ў некаторых калегаў Вольгі Лісоўскай дасягнулі 1,5-2 мільярдаў рублёў.

Пасьля спробы Беларускай натарыяльнай палаты правесьці перамовы і дасягнуць кампрамісу з адміністрацыяй прэзідэнта Лукашэнкі ўладныя структуры сапраўды зрабілі выгляд "кампрамісу" паводле ўласнага разуменьня. Пры добраахвотнай згодзе прыватных натарыусаў аддаць дзяржаве тое, што яна спаганяе незаконна, ім паабяцаная трыццаціпрацэнтная скідка. А таксама – ільготы пры арэндзе памяшканьняў. Аднак гэтыя абяцанкі амаль не спраўджваюцца на практыцы. Нават нязначныя ільготы для "добраахвотнікаў", якія дакларуе адміністрацыя прэзідэнта, не жадаюць прадастаўляць натарыусам арганізацыі – уладальнікі арандаваных памяшканьняў: ім ад адміністрацыі на гэты конт ніякіх указаньняў не паступала. "Ільготы" за сьпіной тых, хто як бы павінен іх рэалізоўваць практычна, ёсьць, такім чынам, толькі сродак вымаганьня грошай з прыватнага натарыяту.

Самі ж прыватныя натарыусы маюць крыўду ня столькі на аўтара зьнішчальнага для іх указу – Лукашэнка, лічаць яны, усё-такі не сьпецыяліст у юрыспрудэнцыі, — колькі на юрыдычна адукаваных людзей з ягонага атачэньня. Пра тое, што закон, тым больш падзаконны акт, ня можа мець зваротнай сілы, ведае любы студэнт юрфаку. Найбольш незразумелай выглядае ў гэтым сэнсе пазіцыя Міністэрства юстыцыі. Мінюст, які напачатку 90-х гадоў быў галоўным ініцыятарам экспэрыменту з прыватным натарыятам, цяпер проста маўчыць, і ня думае хоць бы словам бараніць уласнае "дзіця".

**Наш кар.**

# Няхай жыве страйк?

*(Пачатак на стар.1)*

жорсткіх патрабаваньняў. У мінулую восень прафсаюзы, найперш афіцыйныя, ураду "паверылі". Аднак замест абяцаных зьменаў да лепшага напрыканцы 1998-га году ў краіну прыйшоў дэфіцыт на прадукты першай неабходнасьці. І гэта пры тым, што цэны на малако, масла, яйкі ў Беларусі прыблізна такія ж, як і ў Летуве, Польшчы, а заробкі і пенсіі ў дзесяць і болей разоў меньшыя...

Пачатак новага году прайшоў у Беларусі пад знакам актывізацыі рабочага і прафсаюзнага руху. Далей трываць, слухаючы абяцанкі ўраду і прэзідэнта, нельга — гэтая думка ўсё часьцей гучыць у рабочых "курылках" і на паседжаньнях прафкамаў. Першую, спробную акцыю пратэсту свабодныя прафсаюзы правялі 27 студзеня. У шэсьцях ад прахадных заводаў і мітынгу прыняло ўдзел да 15 тысяч чалавек. Колькасьць для зімовай пары значная, тым болей, што на акцыях апазіцыі столькі не зьбіралася з вясны 1997-га году. Упэўненасьць у тым, што гэта не аднаразовае "мерапрыемства", а менавіта пачатак масавага руху пратэсту, даюць ня толькі беспрасьветнасьць эканамічнай сітуацыі ў краіне (унутраных рэзерваў няма, МВФ і міжнародная супольнасьць рэжыму Лукашэнкі не дапамагаюць, а Расія і сама ў глыбокім крызісе), але і тое, што інфляцыя і безграшоўе спрыяюць страце рабочымі страху перад дыктатарам і ягонымі слугамі з дубінкамі. Да таго ж, усё больш людзей у краіне пачынае разумець, што стварэньнем розных камісіяў і камітэтаў кантролю, што толькі і робіць прэзідэнт, прадуктамі крамы не напоўніш. Вера ў Лукашэнку, як у "лідэра нацыі", губляецца нават сярод адданага яму электарату. Дагэтуль ратавала яго толькі меркаваньне, што нібыта няма ў Беларусі палітыка, кіраўніка роўнага яму. Але распачатая Вярхоўным Саветам падрыхтоўка да выбараў павінна паказаць, давесьці ўсім, што гэта зусім ня так: на разумных, дзелавых і практычных людзей Беларусь не зьбяднела...

Ёсьць падзеі непазьбежныя, падпарадкаваныя выключна самой хадзе гісторыі. Такой падзеяй быў распад Савецкага Саюзу на незалежныя дзяржавы. Толькі Беларусь усё яшчэ чапляецца сёньня за гэтага мерцьвяка і ніяк ня рушыць наперад. Верыцца, што сёлетняя вясна стане ацьвярэжваючай для тых беларусаў, якія яшчэ вераць у фантом. Адкінуць прэч усялякія надзеі на рознага кшталту "саюзы" і пачаць урэшце будаваць Свой Дом Беларусь, урэшце зразумець, што Беларусь гэта еўрапейская краіна — вось тая ідэя, што можа з'яднаць усе слаі грамадзтва і рабочых у тым ліку, каго галеча і бесьперсьпектыўнасьць вывядуць на вуліцы і плошчы нашых гарадоў. Годзе верыць у прыгожыя казкі "інтэгратараў", час ужо жыць сваім розумам.


Мінск. Вясна 1991-га...

**Андрэй НАЛІВА**

## Сямён ШАРЭЦКІ:

# "Выбары прэзідэнта павінны адбыцца ў любым выпадку..."


Сямён ШАРЭЦКІ

***10 студзеня 1999 году дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь 13-га скліканьня прынялі рашэньне аб правядзеньні ў краіне 16 траўня прэзідэнцкіх выбараў.***

***Яшчэ за тры дні да сесіі законнага парламенту Беларусі рэжым А.Лукашэнкі адрэагаваў на будучыя падзеі досыць нярвова, з дапамогай Пракуратуры РБ паспрабаваўшы прыпалохаць усіх, хто верны Канстытуцыі 1994 году, "крымінальнай і адміністратыўнай адказнасьцю". Тым ня менш, падрыхтоўка да выбараў ужо ідзе поўным ходам...***

***Гэтай тэме прысьвечаная гутарка нашага карэспандэнта са старшынёй Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Сямёнам ШАРЭЦКІМ.***

***— Сямён Гяоргіевіч, па-першае, дзякуй вам і вашым калегам за гэты прынцыповы крок! Абвяшчэньня прэзідэнцкіх выбараў чакалі многія людзі Беларусі.***

— За што дзякуй? Нічога надзвычайнага не адбылося. Мы проста дзейнічалі ў строгай адпаведнасьці з законамі. І вось цяпер, калі журналісты гаворацъ: "Ну, нарэшце, Вярхоўны Савет пра сябе заявіў!" - мне заўжды хочацца запытаць: "А што ён раней мог зрабіць? Ён чакаў канстытуцыйнага тэрміну, каб абвясьціць выбары". Мы не маглі гэтага зрабіць ні раней, ні пазьней.

***— Некаторыя назіральнікі наракаюць на нібыта нелегітымнасьць гэтага рашэньня. Наколькі я ведаю, меркавалася запрасіць для абмеркаваньня ўсіх дэпутатаў, абраных у 1995 годзе...***

—Усе дэпутаты будуць запрошаныя на наступную сесію, якая адбудзецца 20 лютага. Пра гэта ўжо можна гаварыць. Будзе прыняты план мерапрыемстваў, ажыцьцяўленьне якіх дазволіць правесьці дэмакратычныя выбары прэзідэнта краіны. Гэта ўсё мы зробім.

***— Зразумела, гэта будзе дэмакратычна. "Перабежчыкі" у створаную прэзідэнтам "палату" тады змогуць самі вырашаць, прымаць ім удзел у сесіі, ці не?***

— Не, ім будзе напісанае такое запрашэньне: яны могуць прыйсьці на сесію, калі складуць паўнамоцтвы ў "палаце". Яны ж выйшлі з Вярхоўнага Савету! Чаму зьяўляецца легітымным нашае рашэньне: таму, што ёсьць тлумачэньне Канстытуцыйнага Суда ад 11 кастрычніка 1995 году, у якім складзе і якія пастановы мае права прымаць Вярхоўны Савет. Пастанова аб выбарах ня тычыцца нейкіх зьменаў у Канстытуцыі. Таму Вярхоўны Савет мае права прымаць яе большасьцю галасоў ад тых дэпутатаў, якія самі сябе лічаць дэпутатамі. А той, хто пайшоў у "палату", сябе дэпутатам ня лічыць. Таму нашае рашэньне не падлягае нія-кім спрэчкам: легітымнае яно, ці нелегітымнае. Калі сам Вярхоўны Савет легітымны, і калі большасьць – дэпутаты, якія яго прызнаюць і ня выйшлі з яго складу – прымае рашэньне, дык яно, безумоўна, легітымнае.

***— А калі, да слова, скончыцца тэрмін паўнамоцтваў у самога Вярхоўнага Савету?***

— Тэрмін паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету скончыцца толькі тады, калі будзе абраны новы склад Вярхоўнага Савету.

***— Сямён Гяоргіевіч, пасьля вядомай заявы Пракуратуры РБ вы гатовыя да магчымых рэпрэсіяў?***

— Вось гэта ўжо не мая праблема – магчымыя рэпрэсіі!

***— Як бы там ні было, а пра падрыхтоўку да нейкага "пераваροту" рэжым ужо загаварыў. Пасьля 10 студзеня вы не адчулі ўзмацненьня "увагі" да сябе і ўціску?***

— Я ўвесь час адчуваю ўціск. Што тут можа зьмяніцца? Калі сп. Бажэлка (Генеральны пракурор РБ — *рэд.*) загаварыў пра нейкі ўціск, я пайшоў на радыёстанцыю "Свабода" і папярэдзіў яго ды іншых аматараў усялякіх уціскаў, што мы выконваем патрабаваньні Канстытуцыі. І калі хто бярэ грэх на сваю душу і адказнасьць перашкаджаць нам рабіць гэта – дык хай сам будзе гатовы адказваць за свае ўчынкі. Дарэчы, я двойчы папярэджваў чынавенства аб адказнасьці. Нагадаў нават пра Піначэта: вунь колькі часу прайшло пасьля яго адстаўкі, але і яму давядзецца адказваць за свае ўчынкі. Тое самае і тут.

Мы ўсё роўна будзем праводзіць выбары, бо гэтага Канстытуцыя патрабуе! Больш за тое, я цяпер еджу па абласных цэнтрах, дзе мы ствараем абласныя выбарчыя камісіі. Далей пойдзе стварэньне раённых камісіяў.

***— А людзі ў нас не запалоханыя? Шмат жадаючых удзельнічаць у працы, за якую ўлады, магчыма, будуць чыніць перасьлед?***

— Вы ведаеце, я нават не чакаў: жадаючых больш, чымсьці месцаў у камісіях. Колькасьць месцаў агавораная заканадаўствам. Абласныя камісіі можна стварыць у складзе ад дзевяці да шаснаццаці чалавек, раённыя – ад дзевяці да дванаццаці. Я прыпыніў вылучэньне кандыдатаў у склад Цэнтральнай выбарчай камісіі, таму што вылучылі ўжо васемнаццаць чалавек, дзевятнаццаты – Віктар Ганчар, які, як старшыня, быў прызначаны раней. Больш нельга вылучаць, згодна з нашым заканадаўствам. А было жадаючых значна больш!

***— Сямён Гяоргіевіч, ці ёсьць ужо міжнародныя водгукі на рашэньне Вярхоўнага Савету, акрамя рэакцыі АБСЕ?***

— На мінулым тыдні нас падтрымаў Сейм Рэспублікі Польшча. Яго дэпутаты прынялі зварот да беларускага народа, выказалі падтрымку і салідарнасьць.

***— Можна цяпер я задам трохі балючае пытаньне?***

— У мяне няма балючых пытаньняў.

***— Пасьля спробы дамовіцца мірным шляхам з рэжымам у лістападзе 1996 году, калі прыязджалі Селязьнёў, Строеў ды іншыя, частка нашых суайчыньнікаў выказвала роспач і расчараваньне. Як вы зараз ацэньваеце тыя падзеі?***

— Калі б мы тады не ўступілі ў перамовы, Вярхоўнага Савету цяпер бы проста не існавала. Нас бы абвінавацілі ў захопе ўлады – што далей? Таму што імпічменту, на жаль, не было. Што мы маглі зрабіць? Нічога. Толькі дамаўляцца.

***— Ці ня можа здарыцца гэтак жа, калі АБСЕ зноў паспрабуе наладзіць перамовы паміж Лукашэнкам і Вярхоўным Саветам пры сваім удзеле?..***

— Мы пойдзем на перамовы, калі такая прапанова будзе. Але ж гэта зусім ня тычыцца перанясеньня тэрміну выбараў! Таму што гэта канстытуцыйнае патрабаваньне. Мы будзем весьці перамовы – а выбары прэзідэнта павінны адбыцца ў любым выпадку. Дарэчы, у тым пагадненьні 96-га году было таксама запісана, што павінны адбыцца давыбары дэпутатаў Вярхоўнага Савету... А на перамовы мы пойдзем заўжды.

*(Працяг на стар. 7)*

 



# Прэцэдэнт

## "Ліквідатары" пачынаюць і... выйграюць

*I*

Не сумняваюся, што зацікаўленыя асобы (а іх па краіне набіраецца вельмі шмат) добра памятаюць кампанію па адмене ільготаў для "чарнобыльцаў", праведзеную прэзідэнтам Беларусі А.Лукашэнкам у 1995 годзе. Гучнае было мерапрыемства. Праўда, цяпер аказваецца, што ільготы адмяніць было проста. Асабліва ўлічваючы метады, якімі дзейнічае прэзідэнт Беларусі: падпісаў паперу пад назвай "указ" – і ўсё. Наступствы ж гэтага кроку проста імі назваць цяжка. Міністэрствы, чыноўнікі, ды літаральна ўсе, каго тычыцца гэтая праблема, апынуліся ў казытлівым юрыдычным становішчы... Але – пра сутнасьць справы.

Год таму, 22 студзеня 1998 году, у Фрунзенскім раённым судзе Мінска адбыўся малапрыкметны, звычайны, здавалася б, судовы працэс. На ім разглядалася грамадзянская справа па скарзе Свабоднага прафсаюзу Беларускага ў інтарэсах Феакцістава Уладзіміра Андрэевіча на неправамоцныя дзеяньні да яго ЖЭСу-83 ЖРЭА-1 Фрунзенскага раёну сталіцы.

Трэба адразу сказаць, што гэтая справа, распачатая адным чалавекам, тычыцца дзесяткаў тысяч людзей, якія маюць пасведчаньні "ліквідатараў", а гэта значыць, удзельнікаў ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Уладзімір Феакцістаў якраз і зьяўляецца "ліквідатарам". Згодна з арт. 19 Закону "Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС", ён мае права на 50-працэнтную скідку пры аплаце жыльля і камунальных паслугаў. Аднак ЖЭС-83 яму гэтую ільготу скасаваў, спаслаўшыся на Указ Прэзідэнта РБ ад 1 верасьня 1995 году № 349 "Аб упарадкаванні некаторых ільготаў для асобных катэгорыяў грамадзянаў. ЖЭС абгрунтаваў свае дзеяньні ведамасным нарматыўным актам – лістом Міністэрства жыльлёва-камунальнай гаспадаркі ад 23 траўня 1997 году.

Але 25 сьнежня 1995 году Канстытуцыйны суд РБ пункт 1 прэзідэнцкага Указа адмяніў, як неадпавядаючы Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

З 1 верасьня 1995 года (пасьля ўказу прэзідэнта) Уладзімір Феакцістаў плаціў поўную суму за жыльлё і камунальныя паслугі, з лістапада 1996-га яму ільготу аднавілі, а з ліпеня 1997-га – зноў скасавалі. Прычынай пазбаўленьня стаў ведамасны ліст ЖРЭА-1. Увогуле, за гэты час У.Феакцістаў пераплаціў дзяржаве 1 мільён 300 тысяч рублёў. Грошы не такія ўжо вялікія, але вы разумееце, што тут справа прынцыпу і... прэцэдэнту.

Рашэньне Канстытуцыйнага суда ніхто не адмяняў. Ды і зрабіць гэта можа толькі сам суд. І Фрунзенскі раённы суд прыняў рашэньне, што дзеяньні ЖЭС-83, як і вышэйстаячага ЖРЭА-1, зьяўляюцца неправамоцнымі. Законных падставаў пазбаўляць У.Феакцістава права аплочваць палову кошту жыльля і камунальных паслугаў няма. А спасылку адказчыкаў на ведамасны ліст суд палічыў неабгрунтаванай, паколькі такія дакументы ня маюць юрыдычнай сілы. Яны ня могуць падмяняць дзяржаўны закон. Адпаведна, "ліквідатару" Феакціставу ЖЭС-83 вымушаны будзе зрабіць пераразьлік. Судовае рашэньне не было абскаржанае і ўступіла ў законную сілу.

*II*

Напэўна, варта вярнуцца на тры гады назад, каб прыгадаць некаторыя моманты, якія тычацца тэмы артыкулу.

Указам ад 1 верасьня 1995 году грамадзянам Беларусі было прыпынена прадастаўленьне ільготаў, якія прадугледжаныя нормамі васемнаццаці законаў. Гэтыя ільготы тычыліся, напрыклад, бясплатнага праезду, атрыманьня беспрацэнтнай пазыкі на набыцьцё ці будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў, кааператыўнае жыльлёвае будаўніцтва, аплату жылплошчы, прадастаўленьне 50-працэнтнай скідкі за карыстаньне ацяпленьнем, вадаправодам, газам і электраэнергіяй, бясплатнага медыцынскага і санаторна-курортнага лячэньня і інш.



Скасаваньне гэтых ільготаў прэзідэнтам закранула дзесяткі тысяч людзей у краіне. Што і ўлічыў Канстытуцыйны суд, прыняўшы рашэньне. Цытую: "... Канстытуцыйны суд лічыць, што ні Канстытуцыя, ні Законы Рэспублікі Беларусь не прадаставілі Прэзідэнту права прыпыняць дзеяньне закону, альбо яго зьмяняць. Прыпыненьне выкананьня закону, яго асобных нормаў ёсьць ня што іншае, як прыпыненьне дзеяньня закону. Прыпыніўшы прадастаўленьне ільготаў і перавагаў, прадугледжаных законамі, правяраемы Указ фактычна прыпыніў дзеяньне гэтых законаў у часе і па колу асоб. Захаваўшы ўстаноўленыя заканадаўчымі актамі ільготы толькі для часткі грамадзянаў, Указ па сутнасьці справы зьмяніў дзеяньне гэтых актаў. Прыняўшы такі Указ, прэзідэнт тым самым узяў на сябе функцыі органа заканадаўчай улады, чым перавысіў свае паўнамоцтвы..."

У нас да законаў заўсёды ставіліся, мякка кажучы, з недаверам. У прынцыпе, нічога не зьмянілася і цяпер. "Наш" чалавек разумеў і разумее, што закон — рэч неабходная і карысная, але ў паўсядзённым жыцьці кіравацца трэба не законамі юрыдычнымі, а законамі жыцьцёвымі.

Да ўлады прыйшоў чалавек якраз з такім "менталітэтам" і ў адзін момант узяў ды і адмяніў закон...

Камунальшчыкаў можна зразумець: нават пасьля прэзідэнцкага ўказу па гарадах Беларусі набіраецца немалая група грамадзянаў, якія ці ня плоцяць за жыльлё ўвогуле, ці плоцяць палову кошту. Аднак, цяпер не савецкія часы, датацыі на ўтрыманьне жыльлёвага фонду пастаянна зьмяншаюцца – камунальшчыкам прапанавана шукаць "унутраныя рэзервы". А што гэта азначае? Павышэньне кватрплаты, толькі павышэньне. І, зразумела, па прыкладзе прэзідэнта, выкрэсьліваньне вялікай групы грамадзянаў з разраду льготнікаў...

Рашэньнем Фрунзенскага суда сталіцы Беларусі беззаконнае самавольства аднаго з ЖЭСаў прыпыненае. Аднак тым самым створаны прэцэдэнт. Бо спадар Феакцістаў толькі адзін з тысяч грамадзянаў, якія па "ўказу" прэзідэнта страцілі ільготы, а пасьля рашэньня Канстытуцыйнага суда так і не атрымалі іх назад. Думаю, судзьдзя, які вёў справу, разумеў, што сапраўды стварае прэцэдэнт, прычым, небяспечны: колькасьць падобных зыскаў у суды можа перавысіць крытычную мяжу. З другога боку, непахісьнасць закону пацьвердзіў Канстытуцыйны суд, і рашэньне яго ніхто не адмяняў.

Па-сутнасці, раённы судзьдзя выконваў у гэтым працэсе работу і Прэзідэнта, і Вярхоўнага Савету, і таго ж Канстытуцыйнага суда. Ці, хутчэй, падчышчаў "хвасты" за гэтымі інстытутамі ўлады.

У недарэчнае становішча трапілі таксама і чыноўнікі, якія маюць дачыненьне да гэтай праблемы. Яны вымушаныя пісаць ведамасныя цыркуляры, загадзя ведаючы, што тыя ня маюць ніякай юрыдычнай сілы, і кожны суд (пры наяўнасьці жаданьня) лёгка прызнае іх "рашэньні" неправамоцнымі. Што і павінен будзе рабіць надалей. Бо выпадак з Феакціставым – першы, але, як мяне запэўнілі прадстаўнікі Свабоднага прафсаюзу Беларускага, не апошні. У дзесяткаў тысяч "чарнобыльцаў-ільготнікаў" зьявіўся шанц абараніць свае правы. Што адкажуць на гэтае "звычайнае" рашэньне раённага суда ўлады і прэзідэнт?

**Сяргей ШАЎЦОЎ**

 

# Студзень — пачатак "вясны..."

Чарговая "мінская вясна" пачалася ў гэтым годзе раней звычайнага. Сезон вулічных шэсьцяў і мітынгаў адкрылі 17 студзеня сацыял-дэмакраты з "Народнай Грамады", што наладзілі акцыю ў падтрымку незалежнасьці Беларусі. Упершыню ў новым 1999 годзе на сталічныя вуліцы выйшлі больш за 4 тысячы грамадзянаў, незадаволеных палітыкай аб'яднаньня з Расіяй.

Дэманстранты прайшлі маршрутам, дазволеным мінскімі ўладамі: ад плошчы Якуба Коласа да опернага тэатру, каля будынку якога адбыўся мітынг. Выступоўцы асудзілі падпісаньне "інтэграцыйных" дакументаў 25 сьнежня, расцаніўшы дзеяньні прэзідэнта Лукашэнкі як дзяржаўную здраду. Было адзначана, што міф пра славянскае адзінства патрэбны абодвум прэзідэнтам дзеля адцягненьня ўвагі людзей ад вынікаў праўленьня "інтэгратараў". Пра самі ж вынікі, прынамсі, такі адметны, як зьбядненьне насельніцтва, гаварылі падчас мітынгу дастаткова. Сацыял-дэмакраты прапанавалі падтрымаць у гэты эканамічна цяжкі год малазабясьпечаныя групы насельніцтва, напрыклад, пенсіянераў. Удзельнікі мітынгу віталі дзеяньні дэпутатаў Вярхоўнага Савету па аднаўленьні канстытуцыйнасьці ў краіне – абвяшчэньне парламентам даты прэзідэцкіх выбараў і аднаўленьне дзейнасьці Цэнтральнай выбарчай камісіі. Дэпутат ВС, сябра партыі "Народная Грамада" Павел Знавец ад імя сваіх калегаў-парламентарыяў заклікаў усіх людзей выканаць грамадзянскі абавязак – прагаласаваць 16 траўня. Выступоўца зьвярнуўся таксама да праваахоўных органаў Рэспублікі Беларусь, заклікаў іх, устрымацца ад рэпрэсіяў. На мітынгу закранался і тэма вяртаньня ў нашую краіну амбасадараў краін Еўрасаюзу, што адбывалася ў гэты ж дзень адначасна з акцыяй. "Мы лічым гэта не актам у падтрымку рэжыму Лукашэнкі, а чарговым крокам на шляху разьвіцьця міжнародных адносінаў на карысьць беларускага народу, у падтрымку дэмакратыі," – адзначана ў рэзалюцыі мітынгу.


Мінск. 17 студзеня 1999 году.

Відавочна, што шэраг апошніх беларускіх падзеяў спрыяе ўзмацненьню грамадзянскай актыўнасьці людзей. Праз чатыры дні пасьля сацыял-дэмакратаў шэсьце і мітынг супраць аб'яднаньня з Расіяй у адну дзяржаву арганізаваў Беларускі Народны Фронт. Акрамя таго, пачатак сёлетнягага году быў надзвычайна багаты на пікеты розных дэмакратычных партыяў.

**Наш кар.**

# Апанентаў абражаць можна...

## *Калі іх погляды разыходзяцца з "дзяржаўнай палітыкай"*

14 студзеня Мінскі гарадскі суд перагледзеў справу аб абароне гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі гісторыка, дасьледчыка тэмы камуністычных рэпрэсіяў Ігара Кузьняцова. Перагляд быў ініцыяваны як самім Кузьняцовым, так і адным з адказчыкаў — старшынём мінскага гарадскога таварыства "Гістарычныя веды" Аляксеем Хахловым. Як вядома, раней суд Савецкага раёну Мінску часткова задаволіў прэтэнзіі І.Кузьняцова, абавязаўшы А.Хахлова ў месячны тэрмін папрасіць у яго прабачэньня за абразу праз друк. Але ў дзеяньнях іншых адказчыкаў – А.Залескага, "Народнай газеты", а таксама газеты "Славянский набат", прыцягнутай да адказнасьці ў ходзе працэсу – Савецкі суд аніякай некарэктнасьці не знайшоў. Нагадаем, што менавіта на старонках згаданых выданьняў спадары Залескі, Хахлоў ды іншыя аўтары апраўдвалі рэпрэсіі, заадно абвінавачваючы І.Кузьняцова ў "фальсіфікацыі гісторыі", плагіяце ды іншых грахах (якія пры бліжэйшым разглядзе не пацьвярджаліся). На працягу мінулага году сябры "Гістарычных ведаў", да ўсяго, пісалі на свайго апанента таксама даносы ў розныя інстанцыі, у рэшце рэшт змусіўшы яго пакінуць працу ў эканамічным універсітэце.

У судзе другой інстанцыі да сьпісу абвінавачваньняў з боку прыхільнікаў "прагрэсіўнага савецкага ладу" ( а менавіта іх аб'ядноўваюць "Гістарычныя веды") дадалося яшчэ адно, і вельмі "страшнае". Як напісана ў касацыйнай скарзе А.Хахлова, "...Кузьняцоў нясе адказнасьць за палітычную скіраванасьць канферэнцыі "Палітычныя рэпрэсіі XX-га стагодзьдзя" і зьяўляецца адным з арганізатараў буйной антыпрэзідэнцкай палітычнай правакацыі". На думку сп. Хахлова і ягонай "групы падтрымкі" на судзе, Кузьняцоў, як адзін з рэцэнзентаў, павінен быў не дапусьціць выхаду ў сьвет кнігі па матэрыялах дакладаў удзельнікаў канферэнцыі. "Інкрымінаваліся" гісторыку таксама выступ на канферэнцыі і нават сам факт удзелу ў ёй.

Менавіта з-за скаргі таварыства "Гістарычныя веды" у пракуратуру мінулай восеньню ледзь не апынуўся пад сьледствам адзін з арганізатараў канферэнцыі "Палітычныя рэпрэсіі XX-га стагодзьдзя" – Беларускі Хельсінкскі камітэт. Цікава, аднак, што супрацоўнікі Пракуратуры РБ пасьля знаёмства са зборнікам дакладаў не знайшлі падставаў для крымінальнага перасьледу ні навукоўцаў, ні праваабаронцаў, ні ахвяраў "чырвонага тэрору" (другім арганізатарам была Асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсіяў). Што да справы Кузьняцова, то тая ж Пракуратура РБ ажно двойчы адмовіла А.Хахлову, які патрабаваў адмяніць рашэньне Савецкага суда аб пэрапрашэньні за абразу калегі.

Можна было чакаць, што гарадскі суд альбо нічога ня зьменіць у рашэньні Савецкага, альбо прызнае некарэктнымі паводзіны ўсіх адказчыкаў – падстаў для гэтага мелася дастаткова. У часе пасяджэньня судзьдзі гарсуда сп.сп. Жупікава, Шыдловіч і Худзюк не былі заўважаныя у нейкай тэндэнцыйнасьці. Відавочна, што на іхняе канчатковае рашэньне моцна паўплывала палітычная падаплёка справы ("навуковай спрэчкі", кажучы словамі апанентаў Кузьняцова).

Такім чынам, выказваньні прыхільнікаў камуністычнага тэрору у "Народнай газеце" і "Славянским набате" суд палічыў цалкам карэктнымі і дапушчальнымі. Каментуючы гэтае рашэньне, Ігар Кузьняцоў заявіў, што "ня мае ілюзіяў наконт пазіцыяў іншых судовых структураў пры сёньняшнім "прававым Чарнобылі"", аднак мае намер зьвярнуцца ў Вярхоўны Суд. На думку Кузьняцова, гарадскі суд Мінску фактычна санкцыянаваў маральны гвалт дзяржавы і прыхільнікаў "савецкага ладу" у дачыненьні да любых праяваў іншадумства.

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# Падзеі Факты Каментары


Мінск. 27 студзеня 1999 года.

(Пачатак на стар. 1)

*17 студзеня* непаўнагадовы Станіслаў Карашчанка, зьбіты нявядомымі асобамі ў цывільным 8 сьнежня 1998 году і дастаўлены імі ў міліцыю, атрымаў адказ на сваю скаргу з Пракуратуры Цэнтральнага раёну г.Мінска. У адказе паведамляецца: «У ходзе праведзенай праверкі пракуратурай раёну не ўстаноўленыя факты перавышэньня ўлады альбо службовых паўнамоцтваў супрацоўнікамі міліцыі. Пры такіх абставінах пракуратура Цэнтральнага раёну г.Мінска не знаходзіць дастатковых падставаў для прыняцьця мераў пракурорскага рэагаваньня. Пры нязгодзе з прынятым рашэньнем Вы маеце права зьвярнуцца ў пракуратуру горада Мінска».

*17 студзеня* ў Мінску адбыліся мітынг і шэсьце, арганізаваныя сацыял-дэмакратычнай партыяй «Народная Грамада», накіраваныя супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі. Заяўляльнікі акцыі планавалі прайсьці ад мінскай плошчы Якуба Коласа да Кастрычніцкай плошчы і правесьці там мітынг. Мінскі гарвыканкам не даў дазволу на правядзеньне мітынгу на Кастрычніцкай плошчы, спасылаючыся на рашэньне аб «асаблівым статусе» гэтай плошчы (знаходзіцца побач з рэзідэнцыяй прэзідэнта РБ). Мітынг сацыял-дэмакратаў з удзелам іншых дэмакратычных сілаў Беларусі адбыўся на плошчы Парыжскай камуны.

*У студзені 1999 году* вядомы ў Беларусі адвакат Гары Паганяйла накіраваў у краіны ЕС, еўрапейскія структуры і амбасады суседніх з Беларусьсю краінаў зварот, у якім заклікае паўздзейнічаць на пазіцыю беларускіх уладаў у адносінах да зьняволенага экс-старшыні ЗАТ «Расьсьвет» Васіля Старавойтава. Улады не прыслухоўваюцца да меркаваньняў аўтарытэтных экспертаў, якія сьцьвярджаюць, што шматлікія хваробы 75-гадовага зьняволенага патрабуюць неадкладнага лячэньня.

*18 студзеня* падчас пікету, арганізаванага Беларускім Народным Фронтам «Адраджэньне», быў затрыманы сакратар Управы БНФ Анатоль Крыварот. Яго пазналі па фотаздымках, зробленых сьпецслужбамі 6 сьнежня на мітынгу, прысьвечанаму 50-ым угодкам абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У судзе Цэнтральнага раёну г.Мінска судзьдзя Анатоль Барысёнак вынес А.Крывароту папярэджаньне.

*20 студзеня* рэдактар Віцебскай апазыцыйнай газеты «Выбар» Барыс Хамайда выступіў са зваротам да яўрэйскіх арганізацыяў ЗША, Францыі і Вялікабрытаніі. У звароце Б.Хамайда просіць садзейнічаньня ў справе вызваленьня з-пад варты старшыні Віцебскай Рады БНФ «Адраджэньне» Уладзіміра Плешчанкі, які ўжо пяты месяц утрымліваецца ў сьледчым ізалятары па падазрэньні ў дэмантажы помніка расійскаму палкаводцу Сувораву. Б.Хамайда выкладае ў звароце гісторыю выратаваньня сваёй маці вясною 1942 году, калі фашысты зьнішчылі яўрэйскае гета ў мястэчку Калышкі Лёзненскага раёну. Ад расстрэлу маці Хамайды выратаваў мясцовы жыхар-беларус. «Сёньня дапамога патрэбная беларусу, як была патрэбная ў свой час дапамога маім родным. Я прашу вас — дапамажыце выратаваць жыцьцё майго беларускага сябра Уладзіміра Плешчанкі», — гаворыцца ў звароце.

*20 студзеня* сакратарыят Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) імя Францішка Скарыны выступіў з заявай, у якой сьцьвярджаецца: «абодва экзэмпляры падпісаных 25 сьнежня 1998 года ў Маскве прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкам і прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Б.М.Ельцыным Дагавору аб роўных правах грамадзянаў і Пагадненьня аб стварэньні роўных умоў суб'ектам гаспадараньня краінаў учыненыя ў парушэньне агульнапрынятых дыпламатычных традыцыяў толькі на адной мове — рускай. Тым самым адкрыта засьведчаная непавага да дзяржаўнай беларускай мовы».

*21 студзеня* ў Мінску былі затрыманыя дзьве непаўнагадовыя дзяўчыны — Ляшкова Тацяна (14 гадоў) і Чарвякова Вольга (навучэнка Беларускага гуманітарнага ліцэю, 15 гадоў). Яны распаўсюджвалі ўлёткі з запрашэньнем на дазволены ўладамі мітынг 22 студзеня. Іх затрымаў жыхар пад'езда, у якім дзяўчыны раскідалі па скрынях лістоўкі. Ён паказаў ім пасьведчаньне супрацоўніка міліцыі, патэлефанаваў па 02 і выклікаў машыну. Праз 30 хвілінаў прыехала міліцэйская машына, дзяўчынаў адвезьлі ў Савецкі РАУС, дзе склалі пратакол, пасьля выклікалі бацькоў, каб забралі сваіх дзяцей дадому.

*21 студзеня* ў г. Слуцку Мінскай вобласьці адбыўся суд над актывістамі БНФ «Адраджэньне» Мікалаем Анцыповічам (дацэнт кафедры філасофіі Беларускай Дзяржаўнай Політэхнічнай Акадэміі) і пенсіянерам Генадзем Банкевічам. Іх абвінавачвалі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным шэсьці, якое адбылося 29 лістапада, калі адзначаліся 78-ыя ўгодкі Слуцкага антыбальшавіцкага паўстаньня. Аўтобусы з Мінску былі замоўленыя на імя Мікалая Анцыповіча, што дало падставу судзьдзі С. Пастуховай прыйсьці да высновы, што ён і зьяўляўся арганізатарам мерапрыемства. У якасьці сьведкаў традыцыйна выступалі супрацоўнікі міліцыі. Пенсіянер Генадзь Банкевіч знаходзіўся ў шпіталі, таму ня здолеў зьявіцца на суд, але гэта не перашкодзіла судзьдзі С.Пастуховай прысудзіць яму 40 млн. рублёў штрафу. Мікалай Анцыповіч аштрафаваны на 20 млн. рублёў.

*З 21 па 23 студзеня* ў Мінску і іншых гарадах БНФ «Адраджэньне» наладзіў шэраг пікетаў (усяго больш за 60) супраць спробаў інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі, а таксама супраць рэзкага зьбядненьня насельніцтва краіны. Акцыі былі прымеркаваныя да запланаванай на 21 студзеня сесіі Парламенцкага сходу саюзу Расіі і Беларусі.

*22 студзеня* ў Мінску прайшлі мітынг і шэсьце супраць грубага парушэньня Канстытуцыі РБ — падпісаньня чарговых дакументаў аб саюзе Беларусі і Расіі. Акцыя была арганізаваная БНФ «Адраджэньне» з удзелам усіх дэмакратычных сілаў краіны. Напрыканцы мітынгу супрацоўнікі міліцыі Цэнтральнага РАУСу спрабавалі затрымаць загадчыцу грамадзкай прыёмнай Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Любоў Лунёву, каб даставіць у Цэнтральны РАУС дзеля складаньня пратаколу за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу 6 сьнежня. Л.Лунёва не пагадзілася сесьці ў службовую машыну, ёй на дапамогу кінулася моладзь, і міліцыянеры вымушаныя былі адступіць. Увечары міліцыянеры чакалі Л. Лунёву каля пад'езду яе дому, але яна здолела разьмінуцца з імі.

*25 студзеня* Мінскі гарвыканкам адмяніў рашэньне аб непрадастаўленьні Палаца культуры акцыянернага таварыства «Сукно» для правядзеньня Кангрэсу дэмакратычных сілаў, які прайшоў 29-30 студзеня.

*26 студзеня* калегія Кіраўскага суда на чале з Надзеяй Чмарай прыняла рашэньне аб выдаленьні з залы паседжаньняў прадстаўнікоў грамадзкасьці. Судзьдзя заявіла, што гэта — часовая мера, дзьверы суда будуць зачыненыя, пакуль ідзе медыцынская экспертыза псіхічнага стану Васіля Старавойтава. Правядзеньне падобнай экспертызы ў зале суда — беспрэцэдэнтны выпадак.

*26 студзеня* ў Мінску ў

 

раёне Трактарнага заводу былі затрыманыя непаўнагадовыя Станіслаў Каращчанка і Зьміцер Бунчук, якія расклейвалі ўлёткі з запрашэньнем уступаць у шэрагі «Маладога Фронту» і ўлёткі, якія прапагандуюць нацыянальную музыку: «Слухай беларускае!». С.Каращчанку і З.Бунчука даставілі ў РАУС Партызанскага раёну, дзе на іх быў складзены пратакол. Яны абвінавачваюцца ў парушэньні арт. 143, ч.3 КаАП РБ — расклейка аб'яваў ў неадведзеных для гэтага месцах. Паводле гэтага артыкулу ім пагражае папярэджаньне альбо штраф у памеры да аднаго мінімальнага заробку.

*26 студзеня* ў Віцебску быў затрыманы актывіст віцебскай Рады БНФ, рэдактар апазіцыйнай газеты «Выбар» Барыс Хамайда. Ён выйшаў на вуліцу з плакатам «Свабоду Плешчанку». Б.Хамайда быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167. 1, ч.2 — і атрымаў 15 сутак арышту.

*27 студзеня* ў Мінску адбыўся мітынг, у якім узялі ўдзел Свабодны прафсаюз Беларускі (СПБ), прафсаюз АСМ (аўтамабіле-сельгасмашынабудаваньня), прафсаюз радыёэлектроннай прамысловасьці і прафсаюз прадпрымальнікаў. У гэты дзень два галоўныя рынкі сталіцы (Камароўскі і на стадыёна «Дынама» спынілі сваю працу ў знак салідарнасьці з прафсаюзамі. Акцыя пачалася а шаснаццатай гадзіне. З розных канцоў гораду дэманстранты пачалі сьцягвацца да Палацу спорту — дзе адбыўся галоўны мітынг. У акцыі прынялі ўдзел, прыкладна 12 тысяч чалавек. Напрыканцы мітынгу была прынятая рэзалюцыя. У ёй удзельнікі мітынгу патрабуюць ад прэзідэнта і ўрада выканьня Рэзалюцыі рэспубліканскага сходу прадстоўнікоў працоўных калектываў і прафсаюзных арганізацый ад 21 траўня 1998 году: спыніць рост цэнаў і інфляцыю, надаць заробку статус першачарговага плацяжу, зьменшыць падаткі з грамадзянаў і прадпрыемстваў, прадставіць працоўным і прафсаюзам месца ў дзяржаўных СМІ.

*27 студзеня* Рада Саюзу беларускіх пісьменьнікаў прыняла заяву, накіраваную супраць спробаў інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі. «Зьмяненьне дзяржаўнага статусу Рэспублікі Беларусь зьяўляецца нічым іншым, як ігнараваньнем нацыянальных інтарэсаў і ня можа лічыцца легітымным, бо супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь», — сказана ў заяве.

# Калядны падарунак зьняволеным

З пачатку сьнежня 1998 г. у Мінскім СІЗА павялічыліся нормы прыёму перадачаў зьняволеным. Раней тут прымалі ў месяц адну прадуктовую перадачу вагой да васьмі кілаграмаў (пры ўмове, што зьняволены не парушыў рэжыму). А з пачатку сьнежня 1998 г. перадачу дазволена перасылаць два разы на месяц і вагою да пятнаццаці кілаграмаў.

Супрацоўнікі СІЗА патлумачылі, што гэтыя зьмены былі ўведзеныя з нагоды сьвятаў — Калядаў і Новага году. Але новыя нормы, відаць, застануцца і надалей. Памяншаць іх пакуль што не зьбіраюцца. Варта адзначыць, што нормы павялічыліся толькі ў Мінскім СІЗА, а ў іншых гарадах Беларусі яны засталіся ранейшымі — восем кілаграмаў, і толькі раз на месяц.

Цяпер у мінскім СІЗА прымаюць і тушонку ў металічных бляшанках. Раней гэта было забаронена — бо ў камерах нельга трымаць ніякіх металічных прадметаў, каб не нанесьці цялесных пашкоджаньняў сабе і сукамернікам. Кажуць, што цяпер бляшанкі з тушонкай адкаркоўвае «прадольны мент» (дзяжурны па калідоры). Раней нельга было перадаваць малочныя прадукты, цяпер прымаюць і сыр, і згушчанае малако. Гэта азначае, што істотна пашырыўся і асартымент прадуктаў. Але ў пакоі для прыёму перадачаў мінскага СІЗА вісіць абвестка аб тым, што напоі і сокі ў аднаразовых упакоўках часова прымаць забаронена. Тлумачыцца гэта тым, што напярэдадні сьвятаў былі спробы перадачы сьпіртнога.

Для зьняволенага, які знаходзіцца ва ўмовах перанаселенай камеры, дзе на аднаго чалавека прыпадае менш за квадратны метр плошчы, перадача — самая вялікая радасьць. Кожны зьняволены прыкладна ведае, калі падыходзіць ягоны тэрмін атрымаць перадачу, і з надзеяй чакае гэтага дня.

Здараюцца выпадкі, калі частка перадачы не даходзіць, але даказаць гэта немагчыма. Тое, што перадаецца, узважваецца, але ў камеры няма вагаў, і зэк ня можа праверыць вагу. А калі мент вязе не каталцы цыгарэты "LM" (кожная пачка перавязаная ніткамі альбо ўсе цыгарэты высыпаныя ў празрысты пакунак), дык хіба лёгка яму ўтрымацца і не працягнуць руку па цыгарэты... Бо пасьля работы давядзецца купляць іх па 160 тысячаў у камерцыйным кіёску. У сем'ях супрацоўнікаў СІЗА ідзе значная эканомія грошай за кошт сваякоў зьняволеных. Таму павелічэньне нормаў перадачаў выгадна ня толькі зэкам.

Відавочна, што гэтая зьмена нормаў зьвязаная ня толькі са сьвятамі і жаданьнем адміністрацыі мінскага СІЗА зрабіць зэкам калядныя падарункі, але і з тым, што выжыць нармальнаму чалавеку пры мізэрнай турэмнай штодзённай пайцы вельмі цяжка. Зраніцы тут даюць звычайна чарпак сечкі, у абед — баланду з пярлоўкай, на вячэру могуць даць юшку з селядца... Такім чынам, павялічыўшы колькасьць перадачаў, адміністрацыя СІЗА часткова здымае з сябе адказнасьць за харчаваньне зьняволеных.

Відавочна, што павялічэньне нормаў перадачаў зьвязанае і з інтэграцыйнымі працэсамі — у Расіі такія нормы былі ўведзеныя значна раней.

**Мікола КАЧАН**

# "Выбары прэзідэнта павінны адбыцца ў любым выпадку..."

*(Пачатак на стар.3)*

***— Выказваецца меркаваньне, што нават Аляксандр Лукашэнка можа паўдзельнічаць у выбарах 16 траўня.***

— Гэта яго праблема! Яму ж ніхто не забараніў удзельнічаць. Ён мае права. Але – гэта малаверагодна!..

***— Як працаваць у вядомай сітуацыі з беларускімі мас-медыя? Ці хопіць дэмакратам, гэтак мовячы, інфармацыйных рэсурсаў?***

— Але іншай прэсы ў нас няма. Тут патрэбна, каб дэмакратычныя прэса дзейнічала больш адказна. І ня варта цяпер перамываць косьці апазіцыі. Гэта можна было рабіць паўгода назад, а цяпер – навошта? Можа, камусьці так і хацелася – каб Вярхоўны Савет прыняў толькі заяву. Былі прапановы менавіта заяву і прымаць. Але мы прынялі канстытуцыйную пастанову і будзем яе выконваць, што б ні сталася. Хачу падкрэсьліць, што нашае рашэньне – юрыдычнае, а не палітычная заява, за якой не стаіць ніякіх дзеяньняў.

***— Ці ёсьць, на вашую думку, сярод грамадзкаактыўных дэмакратычных сілаў Беларусі такія, што ўспрынялі рашэньне аб выбарах адмоўна?***

— Пакуль што няма такіх. Гэта ж палітычнае самазабойства, калі нехта заявіць, што не падтрымлівае патрабаваньне Канстытуцыі. Дык што ён тады падтрымлівае?! Рэжым?

***— Днямі ў нас адбудзецца доўгачаканы Кангрэс дэмакратычных сілаў краіны. Ці будуць на ім прымацца рашэньні па вылучэньні кандыдатаў у прэзідэнты краіны?***

— Ня будзе такіх рашэньняў. Таму што выбары тады, атрымліваецца, будуць недэмакратычнымі. Мы нікому не павінны забараняць вылучаць сябе кандыдатам у прэзідэнты. Вярхоўны Савет гэтае права забясьпечыць любому, хто толькі пажадае. Але будзе патрабаваць і ад яго выкананьня тых прынцыпаў, якія прадугледжаныя законам.

***— А вы самі не зьбіраецеся балатавацца ў прэзідэнты?***

— Не, ні ў якім разе. І аб гэтым я ўжо заявіў раней. Інакш Лукашэнка проста правядзе прапаганду, што я нібыта ўсё раблю для сябе, пад сябе. Тут амбіцыі павінны быць на трыццатым месцы. Тут галоўнае — справа дзяржавы, народу...

**Гутарыла Тацяна СЬНІТКО**



 

Андрэй МЕЛЬНІКАЎ

# Вандроўка за краты



У другой палове дня ў панядзелак з-за дзьвярэй чую сваё прозьвішча – мяне выклікаюць. Праз хвіліну дзьверы адчыняюцца. Куды павядуць: на сьвіданку, на допыт, да адваката, на эксьпертызу... Пакуль невядома. Даведаешся толькі на месцы. Ёсьць у гэтым свой плюс – трэніроўка інтуіцыі: з часам амаль беспамылкова вызначаеш, куды і навошта цябе выводзяць.

І вось я, яшчэ нявопытны, накінуўшы на плечы штармоўку, выходжу. Разьмінаюся на "прадоле", побач — атлетычнага выгляду хлопец у чырвоным спартовым строі. Ён трымае ў руцэ "кешар", а пад пахаю згорнуты матрац. Я яго ўжо ведаю. Гэта Н., ён вяртаецца ў нашую "хату" з чарговага этапа, і яго сустракаюць там, чую, радаснымі воклічамі.

Мяне вязуць на допыт. Сьледчы Турач паведамляе, што адвакат пакуль яшчэ ня знойдзены, і прапануе пагадзіцца на размову без яго. Абяцае пасьля сустрэчу з жонкай, якая зараз у Гародні. Узважыўшы ўсё, на размову (допыт) пагаджаюся.

Пытаньні, у асноўным, тычацца біяграфіі, але паступова размова набліжаецца да майго знаходжаньня ў памежным лесе. Паўтараю расповяд пра збор грыбоў. Гучыць гладка. Ды вялізную памылку ўсё-такі раблю: кажу, што, зьбіраючы грыбы, пайшоў у бок мяжы.

Раптоўна разумею гэта і кажу сьледчаму, што далей на пытаньні буду адказваць толькі ў прысутнасьці свайго адваката. Турач настойвае на тлумачэньні спыненьня дачы паказаньняў. І я раблю другую памылку: кажу, што часам бываюць правалы ў памяці.

Абедзьве гэтыя памылкі потым былі скарыстаныя на карысьць сьледства. Першая, хаця і ўскосна, указала на наўмыснасьць дзеяньня, другая, у далейшым, была расцэненая, як спроба заблытаць КДБ і пазьбегнуць адказнасьці.

Потым я зразумеў сваю нявопытнасьць і наіўнасьць: ня варта падчас сьледства прызнаваць сваю віну нават часткова, прынамсі, пакуль яна не даказаная. Той, хто прызнаў віну, для сьледчага – ужо амаль гатовы падсудны. Людзі, што "варацца" у законах РБ, добра ведаюць: шчырае прызнаньне паляпшае ўмовы і абцяжчае пакараньне, але і падаўжае тэрмін. Прызнаўшы пасьля затрыманьня факт перасячэньня мяжы і рух у яе бок, я ня столькі атрымаў адносны камфорт у турме, колькі пацьвердзіў справядлівасьць свайго знаходжаньня за кратамі.

Надалей я стаў, як гэта называецца, на "шлях адмовы складу злачынства" і "супрацьдзеяньня ўсталяваньню ісьціны". Камфорт незваротна зьнік, але я пра гэта не шкадаваў: ня надта прыемная гэтая справа – камфорт у турме за кошт адміністрацыі.

Пасьля падпісаньня пратаколу з маімі прыкрымі памылкамі, Турач запрашае ў пакойчык маю жонку. Яна выглядае стомленай і зьнерваванай. Першыя яе словы да мяне: "Ну, ты і дурань!.."

Жонка пабыла ў Смаргоні і ўпэўненая, што мяне б даўно выпусьцілі, калі б я менш "выступаў". "Вы яго адпусьціце?" — пытаецца яна ў Турача. Той шчыра маўчыць у адказ.

Адвакат, кажа жонка, ужо знойдзены і заўтра мяне наведае. Прадуктовая і рэчавая "дачкі" перададзеныя – хутка я іх атрымаю. У "дачку" пакладзеныя, апроч іншага, "сьвянцоныя яблыкі" – трэба, каб я зьеў іх сам, абавязкова адзін (ведала б яна, колькі гэтае "сам" і "адзін" потым будзе мне каштаваць). А яшчэ яна хвалюец-ца, што паклала ў рэчы чырвоныя пантоплі (з гэтым праблемы будуць толькі жартаўлівыя, турма – ня зона, рацыянальнае ў дарослых "хатах" перамагае; з'язджаючы на этап, я пакіну пантоплі наступнікам, і яны, спадзяюся, былі ім дарэчы).

Дзякуй Богу, жонка тут, і я веру, што яна цяпер зробіць самае неабходнае. Трэба неадкладна ўздымаць шум у СМІ, каб усе мае прыхільнікі даведаліся, дзе я. Пакуль ня будзе рэакцыі грамадзтва на маё затрыманьне, я – звычайны зэк. Калі ж будуць трымаць, як звычайнага – да суда ня вызваляць.

"Сьвіданка" скончаная. Ідучы да "сабачніка", бачу, што некалькі ўбаку стаяць сваяк, аршанка Ларыса (прыехала з маёю жонкаю) і Дзіма Кісель – журналіст з газеты "Пагоня". Радасна вітаюся. Яны адказваюць вітаньнем, але іх твары зусім ня радасныя... Сустрэцца з імі пасьля давядзецца толькі праз шмат месяцаў, ужо на свабодзе...

Пасьля "сьвіданкі", шукаючы найлепшага выйсьця, жонка мела размовы з галоўным апазіцыянерам Гарадзеншчыны Сямёнам Домашам і славутым адвакатам Гары Паганяйлам. Надалей жа ейныя дзеяньні былі супрацьлеглымі маім просьбам.

Вяртаюся ў "хату" – хлопцы кажуць: прыносілі "дачку", але мяне не было, таму не пакінулі. Значыць, прынясуць заўтра.

На тумбачцы стаіць вячэра. Да гонару "хаты" трэба сказаць, што пайкі для тых, каго часова выдзернулі, яна пакідае заўсёды, пры любых стасунках паміж жыхарамі.

"Калегі" ўражаныя тым, што ў мяне — ўжо другі допыт за чатыры дні. Гэта для іх пацьверджаньне, што я ня просты зэк. З простымі "сьлядак" сустракаецца раз-два на месяц.

Да адваката мяне вядуць наступным ранкам – праз унутраны дворык у сьлецыяльны будынак — там усе кабінеты праслухоўваюцца.

Не было б кратаў – наўрад ці пазнаёміўся б з гэтым чалавекам. А практычных ведаў ён даў нямала. У стасунках з Уладзімірам я зразумеў, наколькі істотная для адваката і кліента мова жэстаў, а таксама тое, што на Беларусі асноўная работа адваката — не ў судзе, а ў кулуарах. Нябачная большасьці, яна найперш неабходная для посьпеху. А суд – так, для прэсы.

Са зьяўленнем Н. нашая "хата" адразу робіцца "правільнай" – пачынае "ганяць коней". Я таксама рвуся да справы, бо хачу даведацца, дзе Алег, і наладзіць з ім сувязь. З. болей не паказвае з сябе знаўцу "паняцьцяў" і толькі незадаволена бурчыць час ад часу ў бок Н. А Н. вучыць мяне пакуль не сьпяшаецца, і ў гэтым яго актыўна падтрымлівае, як высьвятляецца, галоўны ягоны сябра ў нашай "хаце" Банкір: "Навічкі павінны некалькі тыдняў прыглядацца", кажуць яны. Калі ж мы, урэшце, дамаўляемся з Н. пра вучобу і трэніроўкі па кун-фу, таго выцягваюць на этап.

*(Працяг будзе)*

---

*Працяг.*
*Пачатак у №№ 17-25.*

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mail:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"